Ніва
ТЫДНЁВІК ГП БГКТ
№ 46 (872) ГОД XVII БЕЛАСТОК 12 ЛІСТАПАДА 1972 г. ЦАНА 60 гр.



*Валя Мароз — дэлегат на VII з'езд БГКТ у выставачнай зале таварыства. Фота Цаф — П. Савіцкі.*

## У Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

24 кастрычніка г.г. у ГП БГКТ адбылося пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, прысвечанае ацэнцы VII з'езду БГКТ і галоўным напрамкам культурна-асветнай працы таварыства ў 1972/73 годзе.

Інфармацыю аб адной і другой справе зрабіў сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. Камісія высока ацаніла VII з'езд БГКТ, а таксама і планы таварыства на бліжэйшы перыяд. У іх, падкрэслівалі члены камісіі, асабліва істотным з'яўляецца: актывізацыя моладзі ў напрамку грамадска-гаспадарчага развіцця рэгіёна, кантакты з польскім асяроддзем і з іншымі нацыянальнымі асяроддзямі, асабліва ў святкаванні 50-годдзя ўтварэння СССР і іншых супольных мерапрыемствах. Камісія таксама прыйшла да вываду, што дагэтуляшнія дасягненні БГКТ сведчаць аб тым, што перад Прэзідыумам і Галоўным праўленнем нашага таварыства можна ставіць вышэйшыя патрабаванні, мэтай якіх было б узняццё на вышэйшы ўзровень культурна-асветнай і арганізацыйнай працы ў асяроддзі. Між іншым, камісія прапанавала правесці сустрэчу кіраўніцтва БГКТ з кіруючымі дзеячамі іншых нацыянальных таварыстваў, каб маглі яны падзяліцца арганізацыйным вопытам. (рл)

## У Прэзідыуме ГП БГКТ

28 кастрычніка г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У парадку дня стаялі наступныя справы: абмеркаванне праграмы нарады старшынь гурткоў БГКТ, напрамкі працы літаратурнага аб'яднання «Белавежа» ў святле пастаноў VII з'езду БГКТ, інфармацыя аб стане конкурсаў, арганізаваных БГКТ, і ўнесеныя справы.

На гэтым пасяджэнні Прэзідыум ГП БГКТ вырашыў аб'явіць конкурс на рэпертуарны матэрыял для гурткоў мастацкай самадзейнасці і склікаць ў лістападзе г.г. сход літаб'яднання. Прэзідыум зацвердзіў таксама новы склад праблемных камісій. У гэтай кадэнцыі будуць працаваць тры камісіі ГП БГКТ: культурная, асветная і этнаграфічная. У іх, апрача членаў ГП БГКТ, увайшлі спецыялісты — актыўныя дзеячы БГКТ.

## Нарада старшынь гурткоў БГКТ

29 кастрычніка г.г. у памяшканні ГП БГКТ адбылася нарада старшынь гурткоў нашага таварыства, прысвечаная задачам гурткоў у святле пастаноў VII з'езду БГКТ. Нарада прайшла ў творчай актыўнасці і напэўна будзе спрыяць шырэйшаму разгортванню бэгэкатоўскай дзейнасці.

Шырэй аб нарадзе напішам у наступным нумары.

НА НІВЕ БГКТ

# Асенні візіт у Паўлах

На БГКТ-оўскую ніву запрашаем сёння нашу добрую знаёмую Валянціну Амельянюк, а цяпер, як выйшла яна замуж за Аркадзія Мароза — Валянціну Мароз, разам з усёй вёскай Паўлы. Ды калі ўжо пачалі пра прыватнае жыццё Валі, то і больш варта сказаць аб ім: муж Валі — Арак — механік, працуе ў паўлаўскім сельскагаспадарчым гуртку і разам з бацькамі на гаспадарцы. Належыць да моцнай і трывалай у Паўлах групы маладых мужчын, прымаючых удзел у грамадскім жыцці вёскі, а таксама ў драмгуртку, якім кіруе Валя і які ставіць п'есы толькі добрыя і толькі па-беларуску. Аркадзій Мароз не надта размоўны, але Валя — жывое серабро. Таму яна можа рабіць і рашаць так многа. І ўсё выходзіць. Новая Валіна сям'я жыве ў сімпатычнай згодзе. Ужо ёсць сын, які расце на пацеху бацькам.

Валя Мароз стала ў новым школьным годзе дырэктарам 8-класнай школы ў Паўлах. Іхняя школа перасялілася цяпер у пабудаваны грамадскім чынам будынак, які пачаткова прызначаўся на святліцу. Але... будзе і святліца. І, як верыць Валя, нават ужо ў лістападзе, «бо тыя, што рамантуюць стары будынак школы на святліцу, людзі пэўныя і стараюцца».

У новым пасляшкольным будынку паўлаўскай святліцы знойдзе нарэшце прытулак клуб агародніка — першы такі клуб у Беластоцкім ваяводстве, поўнасцю абсталяваны гароднінна-пчалярскай спулдзельняй у Бельску. Знойдзе там месца і вясковая бібліятэка, і беларускі драмгурток, які не спыняе і не думае спыняць свайго трыумфальнага паходу. (Паўлаўскі самадзейны тэатр з'яўляецца найлепшым у беларускім таварыстве за некалькі апошніх год).

Як цяжка здабыць беларускія п'есы, аб гэтым аж зачаста гаворым і аб гэтым найлепш ведаюць кіраўнікі беларускіх драмгурткоў. Але Валя мае і ведае і тут свае дарогі, якія даводзяць яе да мэты. Не лянуецца пісаць, пераапрацоўваць, шукаць і стукаць у кожныя дзверы. І гэтак наладзіла непасрэдны кантакт з мінскімі культурнымі ўстановамі і кнігарнямі ў Беларусі, а яны ёй прыслалі і прысылаюць зборнікі п'ес. Не ўсе падыходзяць, але дзеля чаго ж творчы розум і адукацыя? Ведаем жа Валю Мароз з яе вялікіх пастановак «Немцаў» Леана Кручкоўскага, перакладзеных ёю ж на беларускую мову, ведаем моцную повесць Марыі Шулецкай пра Райск, якую таксама Валя апрацавала і ставіла на сваёй сцэне.

Прыемна і працавіта праходзяць мінуты размовы ў настаўніцкім пакоі паўлаўскай школы. Гэты пакой змяшчаецца «на горцы», а за адзіным акном будучая святліца ў рамонце і паўлаўскія жоўта-зялёныя дрэвы. Валя закончыла свае ўрокі па польскай мове, я чула, як задавала яна дзецям хатнюю працу на фанетыцы, а цяпер на маю

(Працяг на стар. 5).



# Народны паэт Беларусі

II)

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя разняволіла прыгнечаныя народы былой Расіі. Беларускі народ упершыню ў сваёй гісторыі атрымаў з рук Савецкай улады дзяржаўнасць, поўную свабоду і неабмежаваныя магчымасці для развіцця эканомікі і культуры рэспублікі.

Па-іншаму пачала гучаць у той час і песня Якуба Коласа. Багатае і шматграннае жыццё савецкай краіны з'явілася невычэрпнай крыніцай багатай і шматграннай літаратурнай дзейнасці беларускага паэта, магутны талент якога разгарнуўся цяпер на поўную сілу.

Глыбокае веданне жыцця, удумлівае назіранне над гістарычнымі працэсамі грамадства і пранікненне ў істоту гэтых працэсаў, разуменне перспектыў развіцця сваёй краіны па сацыялістычнаму шляху давалі Якубу Коласу магчымасць стварыць творы, у якіх праўдзіва, з пазіцый сацыялістычнага рэалізму адлюстроўваецца новая, савецкая рэчаіснасць. У творах савецкага часу пісьменнік услаўляе Кастрычніцкую рэвалюцыю, грандыёзнае сацыялістычнае будаўніцтва, індустрыялізацыю, калгасны лад, вольную працу вольных людзей, услаўляе Камуністычную партыю Савецкага Саюза — натхніцеля і арганізатара ўсіх перамог нашага народа.

Цэлы цыкл вершаў і аповесць «Дрыгва» прысвяціў Якуб Колас тэме барацьбы савецкіх людзей за Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю, супраць унутранай контррэвалюцыі і чужаземных захопнікаў у перыяд грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі. Паэт складае гімны мужным абаронцам вялікіх кастрычніцкіх заваёў, услаўляе іх бяссмертныя подзвігі ў імя новага, вольнага жыцця.

У 20-ыя і 30-ыя гады Якуб Колас апявае подзвігі нашага народа на фронце мірнай працы, ён ганарыцца за сваю родную адноўленую Беларусь, якая пераўтварылася з адсталай ускраіны царскай Расіі ў магутную індустрыяльна-калгасную рэспубліку.

У перыяд, калі гітлераўскія разбойнікі накіравалі сваю знішчальную вайну на мірных людзей, а галоўны свой удар — на Савецкі Саюз, магутным набатам прагучалі вершы беларускага паэта, якія заклікалі савецкіх людзей і свабодалюбівыя народы свету аб'яднацца ў магутны, непераможны лагер і даць дастойны адпор агрэсару.

У творах ваеннага часу паэт з вялікай эмацыянальнай сілай апявае гераічныя подзвігі байцоў Савецкай Арміі

(Працяг на стар. 5).



*Старшыня Прэзідыума Савета СССР М. Калінін уручае Якубу Коласу ордэн Леніна. Масква, 1939 г.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ. Я жыла з братам і супольна з ім працавала на спадчыннай гаспадарцы. Аднак ад часу, калі ён ажаніўся, пачаліся непаразуменні, і мы 5 год таму назад падзяліліся без суда. Я карысталася з участка зямлі абшарам каля 1,5 га, з часткі будынкаў і аднаго пакоя. Брат, які сплаціў сёстрам, мае 3/4 гаспадаркі і пагражае, што мяне з гаспадаркі зусім выганіць, бо падзел, які мы правялі, няважны, а ўся гаспадарка мае цэлыя 7 га і не можа быць падзелена, а тым больш будынкі. Ці можа ён гэта зрабіць?

АДКАЗ: Паколькі зямля паміж вамі падзелена, на аснове закону аб урэгуляванні ўласнасці сельскай гаспадаркі вы набылі права ўласнасці да выдзеленай часткі, з якой вы дагэтуль карысталіся. Прэзідыум павятовай рады нарадовай прыме ў гэтай справе пастанову і выдасць дакумент, сцвярджаючы вашу ўласнасць. Больш складанай з'яўляецца справа прысядзібнага ўчастка і будынкаў, якія знаходзяцца ў супольным карыстанні. Знесці супольнасць карыстання можа толькі суд, пры чым будынкаў на часткі дзяліць нельга, а праўдападобна, і сядзібы на два ўчасткі падзяліць нельга будзе. У гэткім выпадку суд можа прызнаць сядзібу і будынкі аднаму, прызнаючы другому сплату. Можа ён таксама адмовіць рабіць падзел, пакідаючы сітуацыю, якая існуе цяпер.




### ЯК РОБЯЦЬ КАЛЁНІІ?

Боўтрыкі — вёска не малая,
вакол сябе зямлю мае.
Зямлі многа і балота —
тут калёніі рабіць ахвота.

Вось мярнічы паявіўся,
чалавек высокі і чарнявы,
мондра ён падышоў да справы.

Зараз людзям заявіў,
што за водку
ніхто ў яго калёніі не купіў.

Людзі сталі меркаваці,
як жа тут хабор мярнічаму даці:
трэба ў канверт укласці
і дахаты яму паслаці.

Адзін гаспадар багаты
не схацеў браць калёніі каля хаты.
Штось сабе задумаў,
каб дастаць калёнію з лугам.

Так сабе абабраў,
каб ніхто яго не асмяяў.
Сталі людзі падзіваці,
што і швагер схацеў каля яго ўзяці.

Вось у вёсцы смех падняўся,
узяў і швагер здагадаўся:

То ж гэта шастуха-бядота
забрала мне палавіну балота.
Каб балота адабраць,
трэба брата з братоваю
з Беластока звалакаць.

Брат з братовую прыехаў
і балота не адабраў,
толькі брата асмяяў:
дзе ж ты, брат, калёнію ўзяў?
Ты ж мусіш буслаў гадаваць,
каб маглі з твае калёніі жабы выбіраць.
Не мог ты калёніі каля вёскі ўзяць?

І так брат брату не абмяняў,
толькі брата асмяяў і ў газету напісаў.
Няхай людзі чытаюць
і багатых гаспадароў ўспамінаюць.

*Іван Гарод*

крысо пінжака, ліпкага, зацвярдзелага, намацаў у кішэні нейкія паперы. Разгарнуў першы дакумент з пачкі — з нямецкім арлом, што ўчапіўся ў свастыку. На фатаграфіі — раскосыя вочы, скуласты грубаваты твар з чорнай чолкай, хмуры позірк прыжмураных вачэй. Нібыта рускі твар, а напісана «Казубоўскі, Фольксдойчэ...» Капітан кінуў дакументы на брук. Вецер падхапіў нейкую паперку, закруціў яе...

— Адкуль тут столькі мерцвякоў? — пачуўся голас шафёра.

— Не разумею. Бомбай, відаць, накрыла... А той на тратуары, у цывільным, — нашы, напэўна, здрадніка злавілі...

Яны зноў зайшлі ў пад'езд. А калі выйшлі, то ўбачылі: на каленях перад трупам схілілася дзяўчына з дзвюма вялікімі брызентавымі сумкамі, перакінутымі цераз вузкія плечы. Капітан бачыў і раней такія сумкі і пазнаў іх — дзяўчына была вядома радысткай... З-пад смешнага, какетлівага капялюшыка тырчэлі ўскалмачаныя светлыя валасы. Па курносым твары, па сінях і вяснушках цяклі слёзы, сіне-барвовыя распухлыя губы дрыжэлі і крывіліся. Ля куткоў рота ляглі тонкія, рэзкія маршчынкі...

Кнопка паглядзела на капітана строгімі вачыма, устала, папраўіла сумку з радыёстанцыяй і ціха сказала:

— Гэта Сярожа. Гэта савецкі разведчык Сяргей Казубоўскі...

*(Працяг будзе)*

### КВАТЭРЫ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

Асветныя ўлады з Сямяціч многа ўвагі адводзяць справе забеспячэння настаўнікаў жыллёвымі кватэрамі. Як вядома, найбольш клопатаў з памяшканнямі маюць настаўнікі, якія працуюць у вясковым асяроддзі. Прыватныя кватэры не заўсёды бываюць адпаведнай якасці. Дагэтуль у Сямяціцкім павеце пабудавана 12 аднасямейных дамоў для настаўнікаў з драўляна-трысняговых элементаў, якія прадукуюцца ў Мікалайках. Кошт аднаго такога дома разам з санітарным і электрычным абсталяваннем складае суму 125 тыс. зл. Кватэра складаецца з трох пакояў, кухні і ванны.

Цяпер у такіх кватэрах жывуць настаўнікі ў Нурцы, Сямяцічах, Цеханоўцы, Вінных Хролах і Астражанах. Будуюцца яшчэ чатыры такія дамы.

Як бачым, такія кватэры танныя і добрыя. Таму ініцыятыва школьных улад з Сямяціч карыстаецца вялікім зацікаўленнем. (яц)




Дарагое Сэрцайка!

Мне 26 год, жыву ў невялікай вёсцы П. Працую разам з бацькамі на гаспадарцы, але апрача таго яшчэ і шыю, бо я краўчыха. Праца на гаспадарцы, як вядома, цяжкая. Але я пастанавіла жыццё сваё аблегчыць, а гэта такім спосабам, што думаю выйсці замуж не на вёску а ў горад. Многа я ўжо мела хлопцаў, якія хацелі са мной жаніцца, але ўсе яны працуюць на гаспадарцы. Ніводзін з іх не хоча ісці ў горад. Нядаўна я пазнаёмілася з Янкам, які працаваў з маім братам у суседняй вёсцы трактарыстам. Янак мне вельмі падабаецца. Ён высокі, прыстойны хлапец, толькі што малодшы за мяне на 2 гады. Гаварыў мне, што будзе працаваць у горадзе шафёрам, што калі пажэнімся — будзем жыць у горадзе. Але вось што мяне непакоіць. Янак прызнаўся, што яго заробкі не вельмі вялікія.

Дарагое Сэрцайка, парай, што мне зрабіць, ці выйсці за яго замуж, ці пачакаць кагосьці другога, бо баюся, што пры такіх малых заробках мы ў горадзе не пражывем.

*Валя з Гайнаўшчыны*

Валя! Пішаш, што Янак табе падабаецца — гэта найбольш істотнае. Што ён крыху малодшы, гэта дробязь, у жыцці не мае значэння. Добра, што глядзіш і на матэрыяльны бок. Але ж вы маладыя — абжывецеся. Пакінуць хлопца, якога кахаеш, толькі таму, што невялікая яго зарплата, і чакаць нейкага «багача», які калісьці з'явіцца або і не? — Не раю. Скуль пэўнасць, што спадабаецца ён табе? А страчанага не вернеш. Калі задумала ты жыць у горадзе, дык не значыць гэта, што будзеш сядзець бясчынна і лічыць толькі на мужавы грошы. Ты ж маеш фах — у горадзе даволі добра платны. Важна тут будзе таксама твая гаспадарнасць. А наогул перад вамі ўсё жыццё: можна ж, вучыцца і рабіць кар'еру.

Жадаю ўсяго найлепшага!

*Сэрцайка*



*На школьным панадворку ў Паўлах (Бельскі павет). Фота Я. Цялушэцкага.*

### БУДЗЕ СВЯТЛО

Якую вялікую ролю і значэнне ў нашым штодзённым жыцці выконвае электрычны ток, аб гэтым, мусіць, нікому многа расказваць не трэба. Сёння ўсё: тэлевізары, радыёпрыёмнікі, пралькі і іншыя «дробязі» першай патрэбы не існавалі б без электрычнай энергіі. Многія нашыя гаспадары маюць таксама і электрычныя рухавікі, якімі рэжуць дровы і сечку. Святло ў штодзённым жыцці дае вялікую дапамогу і прыемны адпачынак пасля цяжкай сялянскай працы. Сяляне вельмі задаволены гэтым і моцна нервуюцца, калі часам на момант святла не стане. Тады кожны заўважае, як нам патрэбна электрычная энергія.

Наша дзяржава таксама гэта добра разумее і стараецца, каб у кожнай сялянскай хаце свяціла электрычная лямпачка.

Аднак ёсць у нас некаторыя, як гэта гаворыцца, «забітыя дошкамі» вёскі, якія яшчэ дагэтуль не электрыфікаваны.

У грамадзе Нараўка, што ў Гайнаўскім павеце, ёсць іх некалькі. Невялікія вёскі Лесна, Забрады, Баравыя, Семенякаўшчызна, Баб'я Гара і хутары самой Семяноўкі карыстаюцца яшчэ колішнім спосабам асвятлення хат — нафтавай лямпай. З дабрадзейства электрычнай энергіі дасюль ім не давялося карыстацца.

Але неўзабаве і ў іх «адкрыецца акно на свет», ды пасянеюць сялянскія хаты і вуліцы. Праводзіліся ўжо і тут уступныя памеры для правядзення электрычнасці. Ужо ў гэтым годзе распачынаюцца ў гэтым напрамку першыя працы.

Сяляне гэтых вёсак тым моцна ўсхваляваны і чакаюць толькі гэтага дня, калі і тут зазвіняць сталёвыя жылы.

Нарэшце і ў іх будзе святло!

*Міхась Гаротны*

### АВЕЧКІ І ДЗЕЦІ

Мяне, як заўсёды цікавяць навіны суседзяў і далейшых. Люблю нават паслухаць чужыя размовы, каб пасля можна было з другімі пагаварыць. Нядаўнэ ў Нарве на фэсце падслухала гутарку дзвюх жанчын. Была гэта Базылёва Параска з Патокі і Самылёва Агата з Гвознае. Зараз, сустрэўшыся, пацалаваліся, аж лёскат рэхам над рэчкай пракаціўся, абцерлі губы з размазанае памадкі і давай гаварыць. Адразу пачалі пра дзяцей. Ну, думаю, нічога дзіўнага, бо ў Параскі ўнукаў, што і на грузавік на ўбярэш. Далей, чую, школу ўспамінаюць. Падышла і я па старой бабскай прывычцы, ды пытаю, у чым справа. «Ой, даражэнькія, — кажа Параска. — Можа чыталі ў «Ніве», як калісь подварскі войт тапіўся на дарозе з Патокі да Тапалян. Аднак нічога не памагло, ніхто дарогай не заняўся і па сённяшні дзень. Цяпер усе дзеці кожны дзень, ідучы ў школу, купаюцца. Пісалі мы ўсюды, нават да старшыні павятовай рады, але ён не прыехаў, пэўна баяўся, каб не ўтапіцца». Агата іранічна ўсміхнулася і зараз заявіла: «Штось тут не так. У нас у Гвознай ідзе ўсё, як па масле. Такую жвіровачку робяць, што люба паглядзець. Што праўда, тудой, дзе робяць жвіроўку, ніхто ніколі не ехаў і ехаць не будзе, але авечкі кожны дзень ганяем. Цяпер, як равамі акапалі і высыпалі, дык авечкі не разбягаюцца. Спакойна ідуць, хвалячы дарожныя ўлады. Гаспадары, што праўда, часта праклінаюць, бо да палоскі праз роў не даедзеш і мусіш рабіць крут 2 км. Аднак больш пахвал, чым праклёнаў, бо авечак большая колькасць, чым пакрыўджаных гаспадароў». Паслухала я і падумала: як гэта ёсць на божым свеце?! Даражэй цэняцца гвозненскія авечкі ад патоцкіх дзяцей.

А як вы, панове дарожныя начальнікі і другія з адміністрацыі, сабе думаеце?

*Суседка Міхаліна*




*Ліля Грыгарук, Бельск.* Вершы «Яна косы свае распусціла» і «Мая краіна» пастараемся надрукаваць у «Парнасіку».

*Міхась Гаротны.* Верш «Каханай» надрукуем у «Парнасіку».

*Міхась Шаховіч, Варшава.* «Дзявочую песню» і «Не забуду, што я беларус» надрукуем у «Парнасіку».

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Droga przez cmentarz" (radz.), „On nie chciał zabijać" (radz.), „Dom na rozstajach" (radz.), „Dzika Elżbieta" (czeski), „Zaduszki" (polski), 14—19.

**Нараўка**
„Akcja „Brutus" (polski), „Narkotyk" (franc.), 15—19.

**Нарва**
„Przyjęcie" (rumuński), „Aleksander Newski" (radz.), 15—19.

**Чыжы**
„Nie można żyć we troje" (ang.), „Prawdzie w oczy" (polski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**
„Cena odwagi" (bułg.), „Biały niedźwiedź" (polski), 15—19.

**Арэшкава**
„Trudne godziny" (radz.), „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 18—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo Niebezpieczna misja" (radz.), 15—19.

**Орля**
„Podróż za jeden uśmiech" (polski), „Jestem niewiernym mężem" (francuski), 15—19.

**Райск**
„Rycerz szklanego ekranu" (węgier.), „Horyzont" (węgierski), 15—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Hugo i Józefina" (szwedz.), „Dzikie dziecko" (franc.), „Śledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (włoski), 14—19.

**Шудзялава**
„Kochana ciocia Sarika" (węgierski), „Seksolatki" (polski), 15—19.

**Янаў**
„Nie lubie poniedziałku", (polski), 15—19

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy", (radz.), „Cierpkie wino", (radz.), „Gwieździsty bilet". (radz.), „Most" (radz.), „12 Krzeseł" (radz.), 14—19.

**Мельнік**
„Dziewczęta", (radz.), „Człowiek, który wątpi", (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), „Polowanie na muchy", (polski), 14—19.

**Мілейчыцы**
„Człowiek bez paszportu", (radz.), „Śmierć Ipu" (rumuński), „Zdradzieckie gry miłosne" (czeski), 14—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Żandarm z gór" (bułg.), „Trzecia część nocy" (polski), 15—19.

**Новы Двор**
„Dzięcioł" (polski), „Ściana czarownic" (polski), 15—19.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.811 T-3

